Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

1 - 7 жніўня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

ДАРОГА, якую нам абралі






2-я старонка

## Падзея тыдня

# Шарамет мяняе камеру

*АШМЯНЫ. На мінулым тыдні на пункце пропуску "Каменны Лог" пагранічнікі затрымалі здымачную групу беларускага бюро ОРТ у складзе вадзіцеля Яраслава Аўчыннікава, аператара Зміцера Завадскага і загадчыка бюро Паўла Шарамета.*

Для выяўлення падрабязнасцей мы звярнуліся ў Ашмянскую пагранкамендатуру. Па словах яе адказнага супрацоўніка, у гэтай справе ёсць нямала незразумеласцей. Разам з тым, на момант размовы даваць якія-небудзь каментарыі ён быў не ўпаўнаважаны, а таму падзяліцца той ці іншай канкрэтнай інфармацыяй папросту не мог.

Ёсць паведамленні пра тое, што журналісты знаходзяцца ва Упраўленні КДБ па Гродзенскай вобласці, а таксама - што двух з іх затрымалі ў Мінскім аэрапорце перад адлётам у Расію, а яшчэ аднаго - у адной з мінскіх кватэр.

І калі за парушэнне мяжы звычайна грамадзяне могуць адкараскацца штрафам, то здымачнай групе пагражае "адседка" да пяці гадоў, паколькі "па факце незаконнага перасячэння дзяржаўнай граніцы" ўзбуджана крымінальная справа.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**P. S. Фактычна пагранічнікі распісаліся ва ўласнай бездапаможнасці: нагадаем, што журналістаў затрымалі далёка ад "месца парушэння", а галоўнай "компрай" сталі адзнятыя імі ж матэрыялы (інакш ахоўнікі мяжы наогул ні аб чым не даведаліся б!). Акрамя гэтага, некаторыя назіральнікі звязваюць затрыманне Паўла Шарамета з тым, што ён нібыта мае інфармацыю аб спыненні Беларуссю знішчэння ядзернага ўзбраення ці абсталявання.**

## Беларусь-- наш дом



# Рыгор-падарожнік

*ВАЛОЖЫН. Маленькі жыхар вёскі Нярові другакласнік Грыша імкнецца ўсім дапамагаць.*

Сімпатычны армянін добра шпарыць па-беларуску. Ён толькі што вярнуўся з 50-кіламетровага маршу (у адзін бок). Разам з бацькам адводзіў прадаваць карову Маліну.

*Віця КАРАНІК.*

## Піўная пятніца

# Пахаванне пройдзе сёння

*Магазіны рэгіёна заваленыя германскім півам "Holsten". Бутэлька ёмістасцю 0,33 л каштуе 8000-8400 рублёў. А бляшанка 0,5 л - 15000-15800.*

У параўнанні з нашым "Портэрам" ці ліцэнзійным "Каралём хмелю" - танна. Адкуль такі падарунак? Прадавец маладзечанскага магазіна "Елгава" гаварыла штосьці пра падарунак прэзідэнта, але накладную не паказала. Аднак не спяшайцеся купляць піва скрынкамі. Тэрмін годнасці гэтага напою заканчваецца 31 ліпеня.

А можа, сапраўды, лепш старое іхняе, чым свежае нашае?

*Аляксандр МІСЕВІЧ.*

## Адным абзацам

Чуткі пра магчымую хуткую адстаўку беларускага прэм'ера на гэтым тыдні не пацвердзіліся - Сяргей Лінг пасля кароткатэрміновага адпачынку прыступіў да сваіх абавязкаў старшыні ўрада. У гаспадарках некаторых раёнаў Брэстчыны і Гомельшчыны ён азнаёміўся са становішчам спраў на нарыхтоўцы кармоў і ўборцы збожжавых.

Пытанні ўборачнай кампаніі - недахоп паліва і запчастак, тэхнікі і механізатараў - традыцыйна абмяркоўваліся і на пашыранай нарадзе з удзелам прэзідэнта краіны.

У наступным годзе ў беларускіх сярэдніх школах пачнецца пераход на 12-гадовую праграму навучання. З'явяцца так званыя падрыхтоўчыя класы, а навучанне будзе ажыццяўляцца з шасцігадовага ўзросту.

Міністэрства эканомікі распрацавала важнейшыя параметры прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на 1998 год: прырост валавога ўнутранага прадукта на 7%, гадавая інфляцыя - 62%, афіцыйны абменны курс рубля - да 94%. Нават калі ў другім паўгоддзі бягучага года курс рубля панізіцца толькі на планавыя 11%, то, у адпаведнасці з прагнозам, да канца наступнага года долар будзе каштаваць каля 60000 рублёў.

На 94-м годзе ў Злучаных Штатах памерла 25 ліпеня Наталля Арсеннева - выдатная беларуская паэтка, якая ў перадваенным часе працавала ў Вілейскай абласной газеце разам з Максімам Танкам і Міхасём Машарам.

Маладзечанскі гарвыканком правёў сустрэчу прадстаўнікоў розных рэлігійных канфесій і арганізацый горада. Абмеркавана іх дзейнасць і ўзаемадзеянне з дзяржаўнымі органамі.

Як паведаміла "РГ" загадчыца сектара аддзела цэнаўтварэння Мінаблвыканкома В. Пахомчык, пры праверцы дзяржаўнага гандлёва-вытворчага прадпрыемства "Арніка", што належыць да гарадской камунальнай уласнасці, сума завышэння цэнаў склала амаль 21 мільён рублёў. Гэтыя грошы, а таксама штраф у такім жа памеры будуць пералічаны ў бюджэт.

Маладзечанскі камбінат хлебапрадуктаў акцыяніруецца. Па 40% акцый пакідаюць сабе Дзяржкаммаёмасць і пастаўшчыкі збожжа, астатняе дзеляць паміж сабою члены працоўнага калектыву. Як відаць, прадпрыемства застаецца дзяржаўным.

Інфармацыя аб плаце за карыстанне школьнымі падручнікамі, здаецца, не ўсхвалявала нікога. Надта ж прывыклі мы выконваць любы загад улады. А між тым, адукацыя ў нас бясплатная, што гарантавана дзяржавай. Акрамя таго, падаткі мы плацім спраўна, у тым ліку і на падручнікі для ўласных дзетак. Навідавоку, што такім чынам з нас патрабуюць двайную плату за навучанне школьнікаў.





## Навіны

# Гарэлка падаражэе

*ВАЛОЖЫН. Сталічныя і маладзечанскія міліцыянеры правялі рэйд па тутэйшых лясах.*

У адной толькі Налібоцкай пушчы за 5 дзён знішчана 60 самагонных апаратаў, выяўлена 17 новых "бровараў". Да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнутыя 20 чалавек.

Хутчэй за ўсё, гарэлка на Валожыншчыне падаражэе. Цяпер жа паўлітэрка каштуе 30 тыс.

*Аддзел інфармацыі.*

# Кветкі ад БНФ

*МАЛАДЗЕЧНА. Сціпла і спакойна адзначылі 7-ю гадавіну прыняцця Дэкларацыі аб Незалежнасці краіны мясцовыя народафронтаўцы: ускладаннем кветак (у асноўным, букетаў, што спалучалі ў сабе белы і чырвоны колеры) да падножжа помніка "Пакутнікам за Волю і Незалежнасць Беларусі".*

У адрозненне ад сакавіцкіх падзей, калі затрымалі некалькіх удзельнікаў падобнай акцыі, на гэты раз каля дзесяці міліцыянтаў, што сачылі за ходам падзей, у дзеяннях прысутных парушэння дэкрэта №5 не ўгледзелі.

*Алесь ЦАДКО.*

**P. S.** Мерапрыемства было санкцыянаванае. Арганізатары падалі заяўку на правядзенне мітынгу, але затым вырашылі адмовіцца ад запланаванага і не давалі таму ніякіх абвестак. Дэлегацыю з пяці чалавек паслалі ў Мінск на маніфестацыю. А кветкі ўскладалі не 10, як прагучала па дзяржаўным тэлебачанні, а больш як 20 чалавек.

*Аддзел інфармацыі.*

# Шампунь для асемянатараў

*СМАРГОНЬ. Ветурачам-гінеколагам, тэхнікам-асемянатарам, заатэхнікам-селекцыянерам раёна давялося ўспомніць студэнцтва. Спецыялісты цягнулі білеты з трыма пытаннямі, 10 хвілін рыхтаваліся і выходзілі да экзаменацыйнай камісіі.*

А ў яе складзе, акрамя мясцовых аўтарытэтаў, выкладчыкі вну, кіраўнікі з Гродна. Акрамя тэарэтычных адказаў, праводзіліся практычныя заняткі па размарожванні семені. Так праходзіў конкурс жывёлаводаў па ўзнаўленні статка. У выніку кожны з удзельнікаў атрымаў па шампуню. А пераможцы - грашовыя прэміі, каштоўныя падарункі: дываны, гадзіннікі, сокавыціскалкі.

*Альберт КУМІШЧА.*

# Японія - Валожын

*ВАЛОЖЫН. Дырэктар СШ №1 Яўгенія Шышла рыхтуе групу школьнікаў, якія ўвосень паедуць на аздараўленне ў Японію.*

Дэлегацыя з краіны Узыходзячага Сонца ў складзе 7 чалавек на падарункі кожнаму будучаму першакласніку школы пакінула па 250 тыс. рублёў. А ў бальніцу прывезла медпрэпаратаў на 4 тыс. долараў ЗША.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Калі работа не патрэбная

*АСТРАВЕЦ. Апошнімі днямі жыхары райцэнтра і вяскоўцы шчыруюць па лясах, збіраючы чарніцы.*

Балазе, са здачай не ўзнікае праблем - з ахвотай закупляюць іх нарыхтпрам, прыватныя прадпрымальнікі, лясгас, які, дарэчы, арганізаваў іх прыём у многіх вёсках.

За тыдзень зарабіць больш за мільён можна лёгка. А ў многіх "зборшчыкаў" гэта месячная зарплата на асноўнай рабоце.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# "Трасуць" мытнікаў

*АСТРАВЕЦ. На днях Савет бяспекі пачаў праводзіць праверку, звязаную з дзейнасцю мясцовай мытні. Яе першыя вынікі для кіраўніцтва мытні нічога суцяшальнага не ўяўляюць.*

Некаторыя супрацоўнікі паніжаныя ў пасадах, два інспектары звольненыя з работы, а адзін з намеснікаў начальніка затрыманы праваахоўнымі органамі па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства. Іншыя інфармаваныя крыніцы сцвярджаюць аб тым, што вызвалены з займаемай пасады і сам начальнік мытні, які цяпер знаходзіцца ў адпачынку.

Праверка працягваецца.

*Аддзел інфармацыі.*

Не можа быць?

# Сабакі з'елі трохпакаёвую кватэру

***Чатырохногія сябры далёка не заўсёды ставяцца да нас па-сяброўску. Ад пачатку года 415 жыхароў рэгіёна звярнуліся да ўрачоў з пакусамі. Толькі ў 5% прыклалі зубы пацукі, каты, коні, лісіцы. У астатніх выпадках крыўдзіцелямі выступілі сабакі.***

На шчасце ніхто з людзей на шаленства не захварэў. 79 чалавек атрымалі прышчэпкі ад хваробы. На гэта пайшло 403 мільёны рублёў.

Адна доза вакцыны каштуе 40 тысяч рублёў. Курс лячэння ў сярэднім 15 доз (па ўколе ў дзень). Стацыянар у суткі каштуе да 300 тыс. (без уліку харчавання).

Як паведамілі ў Мінскім абласным аддзеле асабліва небяспечных інфекцый, пачасціліся выпадкі скальпіравання сабакамі дзяцей да года.

*Васіль САВІЦКІ.*

### Сітуацыя па рэгіёне

| Горад і раён | Звярн. з пакусамі | Зроблены прышчэпкі |
|---|---|---|
| Маладзечна | 164 | 21 |
| Смаргонь | 60 | 12 |
| Вілейка | 44 | 13 |
| Валожын | 58 | 11 |
| Ашмяны | 27 | 16 |
| Астравец | 19 | 5 |
| Мядзел | 43 | 1 |

Працяг тэмы

# Папяровая цяганіна

*МЯДЗЕЛ. Інфармацыя "Тры гады, каб знайсці праўду,- не тэрмін", змешчаная ў мінулым нумары, выклікала рэзананс. Чытачы абураны - крымінальныя справы так доўга не цягнуцца, як гэты грамадзянскі іск. Жадаюць Міхаілу Цяляку не здавацца. Па тэлефоне мы звязвліся з пацярпелым:*

- У новым доме па вул. Чапаева пажыў няпоўныя 4 гады, - гаворыць той, - згарэлі кухня, калідор, два пакоі, частка даху, новая мэбля, адзенне. Пасяліліся ў суседзяў. Больш за месяц штодня 8 памагатых аднаўлялі хату. Будматэрыялы купляў за свае грошы. Затое пад Новы год усіх, хто дапамагаў, сабраў за сталом.

Мясцовы лясгас і маладзечанскія электрасеткі (вінаватыя ва ўзнікненні пажару) не кампенсавалі страты. Тры гады, як справа разглядаецца па судах розных узроўняў. Міхаіл Цяляк звяртаўся нават да прэзідэнта. Пакуль дзейснасці аніякай. Толькі папяровая цяганіна.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Смачна есці

*ВІЛЕЙКА. Аддзел цэнаўтварэння Мінскага аблвыканкома правёў праверку ДГПП "Крыніца". Выяўлены шэраг дробных парушэнняў, але ўвагу прыцягвае дынаміка росту цэнаў на асобныя стравы.*

| | Цана X.1996 г. | Цана V.1997 г. | % росту |
|---|---|---|---|
| Катлеты з ялавіч. | 4250 | 7000 | 64,7 |
| Сал. са свеж. капусты | 1400 | 3600 | 157,1 |
| Гарбата з цукрам | 300 | 700 | 133,3 |
| Суп гарохавы | 1000 | 1800 | 80,0 |

Такім чынам, цана звычайнага комплекснага абеду за паўгода падрасла ўдвая. А ваша зарплата?

*Аддзел інфармацыі.*

Крымінал, здарэнні

# Аматар дрэў

*ВІЛЕЙКА. Год цягнулася следства над 26-гадовым трактарыстам з вёскі Юнцэвічы. Алігафрэн (афіцыйны дыягназ) злавіў на полі кабылу аднавяскоўца і старанна запіхаў у яе палавыя органы дрэва.*

Жывёлу знайшлі ў крыві, і ветэрынар параіў яе зарэзаць, каб не мучылася. Псіхіятрычная экспертыза склала заключэнне: механізатар на той час мог кантраляваць свае дзеянні. Прыгавор суда - год выпраўленчых работ і кампенсацыя стратаў гаспадару кабылы.

*Ірына БУДЗЬКО.*

# За месяц да дня нараджэння

*ВІЛЕЙКА. Муж (шлюб скасаваны) у вёсцы Іжа забіў нажом былую жонку.*

Праз месяц ахвяра мусіла адзначаць 34-годдзе. У былой работніцы дзіцячага садка засталіся чатыры дзяўчынкі. Старэйшая скончыла 9 класаў, малодшая сёлета пойдзе ў школу.

*Ірына БУДЗЬКО.*

Дапамога

# 20 чалавек

*СМАРГОНЬ. Мясцовы лясгас працягнуў руку дапамогі калегам з Брэстчыны: дапамагае расцягваць лясныя завалы, што пакінуў смерч.*

На выхадныя брыгада з 20 чалавек (Ашмянскае, Смаргонскае лясніцтвы) павінна вярнуцца з Івацэвіцкіх лясоў. Іх зменяць на два тыдні лесарубы, пільшчыкі, механізатары з Жодзішкаўскага і Вішнеўскага лясніцтваў. Выкарыстоўваючы свае два трактары МТЗ-82, хлопцы рыхтуюць лес да вывазу. Пакуль яшчэ невядомы гаспадар драўніны - пойдзе яна на Смаргонь ці застанецца дома.

*Альберт КУМІШЧА.*

# 30 чалавек

*АСТРАВЕЦ. Не засталіся ў баку ад ліквідацыя вынікаў стыхіі, якая прайшлася не так даўно па краіне, і ў тамтэйшым лясгасе.*

Днямі ў Брэсцкую вобласць накіравалася брыгада лесаводаў, у склад якой увайшлі тры трактарысты, чатыры вальшчыкі лесу, а таксама лесарубы - усяго трыццаць чалавек. Працаваць там яны будуць вахтавым метадам, бо пастаўлена канкрэтная задача - нарыхтаваць на бураломах 1700 кубаметраў дроў у Целяханскім лясгасе, а за адным разам і ачысціць лясы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

Спорт

# ДЮСШ на ўздыме

*СМАРГОНЬ. У маі тут прайшоў папярэдні турнір першынства краіны па баскетболе сярод юнакоў, дзе бралі ўдзел каманды ўсіх абласцей і Мінска.*

У складзе зборнай сталічнай вобласці выступалі 5 гульцоў маладзечанскай ДЮСШ. Каманда трапіла ў фінальны квартэт і ў снежні мае добрыя шанцы стаць прызёрам спаборніцтваў, якія зноў пройдуць у Смаргоні.

Нагадаем, што нядаўна каманда маладзечанскай ДЮСШ трапіла ў васьмёрку мацнейшых у турніры, што ладзіўся амерыканскай фірмай "Spalding". У гульнях "play-off" яна прайграла будучаму пераможцу.

*Аддзел інфармацыі.*

# Футбольны "мецэнат"

*МЯДЗЕЛ. Прайшоў шосты традыцыйны турнір па футболе на прыз малога прадпрыемства "БелСАН", якое ўзначальвае ўраджэнец Нарачы Валянцін Яцына.*

Перамагла ў турніры каманда "Сэрвач" калгаса "Будслаўскі", за што атрымала паўтара мільёна рублёў. Дарэчы, грашовыя прэміі атрымалі ўсе каманды. А юнакам з роднай вёскі бізнесмен уручыў сапраўдную спартыўную форму "Адзідас". Не адзін год "БелСАН" фінансуе гэтую каманду юнакоў і выплачвае зарплату трэнеру. А сам Валянцін Яцына не толькі прадпрымальнік, арганізатар, але і футбаліст. На турніры ён згуляў у складзе каманды дарослых "Нарач".

*Яніна БУГЛАК.*

# Пасадзіў агуркі - выраслі снарады

*МЯДЗЕЛ. У канцы чэрвеня на дарозе ля вёскі Скоры Нарачанскага сельсавета сяляне знайшлі 76-мм артылерыйскі снарад. Днямі зноў аб'явілася небяспечная знаходка - у вёсцы Балтагузы Сырмежскага сельсавета. Гаспадары апрацоўвалі гарод і выкапалі "цацку" з узрывальнікам. Участковы арганізаваў ахову. Чакаюць мінёраў са сталіцы.*

Мядзельшчына багатая на смяротны ўраджай. Падчас другой сусветнай вайны па раёне праходзіў фронт. За тры апошнія гады мінёраў выклікалі 22 разы. Людзі не падрываліся - навучаныя. Работнікі ваенкамата перыядычна праводзяць з насельніцтвам прафілактычныя гутаркі. А калі што - спрацоўваюць аператыўна. Праўда, былі і кур'ёзы: дыск ад задняга кола "Масквіча" жанчына прыняла за супрацьтанкавую міну.

*Васіль САВІЦКІ.*

# Амаль бартэр

*МЯДЗЕЛ. Разам з адпачынкам на азёрах Свір, Нарач, Вішнеўскае можна хоць неяк кампенсаваць грашовыя страты.*

У калгасе імя Калініна працуе пункт прыёму чарніц і лісічак. Ягады прымаюць па 16 з паловай тысяч за кілаграм або даюць кілаграм цукру. Грыбы даражэйшыя - па 35 тысяч. Ужо нарыхтаваныя тоны лясных дароў. Заўважана, што адпачываючыя з пункта прыёму адразу крочаць да сялян па малако ды яйкі.

*Альберт КУМІШЧА.*

Дарога, што нам абралі

# Усе работы добрыя. Выбірай?



***Большасць навучэнцаў нашага рэгіёна - гэта дзеці звычайных "сярэдніх" пластоў насельніцтва. Невялікая частка падлеткаў паступіць у сталічныя інстытуты, некаторыя адразу знойдуць работу (жарт). Астатнім выбіраць не даводзіцца, іх шлях ляжыць у адно з тэхнічных вучылішчаў.***

Некалькі пытанняў мы задалі тром кіраўнікам ТВ, каб даведацца пра стан спраў у тэхнічным навучанні ў цяперашні час.

*1. Змяншаецца ці павялічваецца колькасць тых, хто жадае вучыцца ў ТВ, у параўнанні з мінулым годам?*

*2. Якая самая папулярная спецыяльнасць і якая - не?*

*3. Ці лёгка вучыцца ў вашым ТВ былым троечнікам?*

*4. Што чакае маладога чалавека пасля вучобы? Ці можа ТВ паўплываць на яго працаўладкаванне?*

**Сяргей АНОП**, дырэктар **СПТВ - 87** (Маладзечна);

**1.** Жадаючых вучыцца ў СПТВ цяпер менш. Прадпрыемствы, на якія раней ішлі працаваць нашы выпускнікі, ужо не могуць іх працаўладкаваць. Гэта тычыцца "Спадарожніка", "Электрамодуля", станказавода і іншых.

**2.** Папулярная - аператары ЭВМ, сакратар-машыністкі ( для дзяўчат). Бярэм на базе 9 класаў па накіраванні. Але тут важныя не толькі кемлівасць, але і знешні выгляд дзяўчыны, таму што ў будучым яна - "твар" сваёй арганізацыі.

Ахвотна ідуць у групу радыёмеханікаў па рамонце і абслугоўванні тэлевізараў. Неахвотна ў групы слесараў і токараў. Лічыцца, што потым ім уладкавацца на работу вельмі цяжка.

*(Дарэчы, вілейскі завод "Зеніт" мае патрэбу менавіта ў рабочых гэтых спецыяльнасцяў). Заўв. аўт.*

**3.** І так, і не. Так, таму што цяпер складаная тэхніка, якая патрабуе добрых ведаў. Не, таму што ў праграме толькі "спецыяльныя" прадметы.

**4.** Працаўладкавалі 85% выпускнікоў. Каля 40 чалавек паступаюць штогод у ВНУ.

**Наталля ЗАНКАВІЧ**, намеснік дырэктара **ПТВ-48** (Вілейка).

**1.** У нас стабільная колькасць навучэнцаў кожны год. Гэта звязана і з тым, што наша ТВ вымушана не толькі вучыць, але і перавыхоўваць. Вучняў, якія дрэнна вучацца ў школе, пераводзяць да нас. Нехта дарэмна спадзяецца, што такіх перавыхавае праца. У сувязі з гэтым створана "тэхнічная" група, у якую залічваюць пасля 7 класа. Паралельна са школьнай праграмай вучні такой групы знёмяцца з якой-небудзь прафесіяй.

**2.** Конкурс у тыя групы, дзе паралельна з асноўнай прафесіяй (газаэлектразваршчык, слесар) падлеткі атрымліваюць вадзіцельскія пасведчанні катэгорыі В і С.

**3.** Вучыцца ў нас лёгка. Была б толькі дысцыпліна. Выключыць нядбайнага вучня мы не можам (гл. адказ на 1 пытанне).

**4.** Да 10 чалавек потым паступаюць. Дзяўчаты ідуць гандляваць, у прыватныя прадпрымальнікі. Большасць хлопцаў - у армію.

**Міхаіл ШНІП**, дырэктар **ПТВ-21** (Маладзечна).

**1.** У параўнанні з 1993-м навучэнцаў больш, але за апошнія два гады іх колькасць зменшылася.

**2.** Групы камплектуюцца на базе 9 класаў. Папулярная прафесія - станочнік-сталяр-цясляр. У супрацьлегласць - прафесія з доўгай назвай: мантажнік па мантажы сантэхнічнага абсталявання-электрагазазваршчык.

**3.** У нас вучыцца нялёгка. Штогод мы выключаем 5-7 чалавек. Але ўжо 5 год наша ТВ займае 1 месца сярод вучылішчаў па падрыхтоўцы да навучальнага года. Майстэрні, сталовая, інтэрнат - усё на вышэйшым узроўні. У гэтым плане навучэнцам нашай ўстановы лёгка.

**4.** Трэцюю частку вучняў забіраюць служыць у арміі. Дарэчы, у абласным упраўленні гэта лічаць працаўладкаваннем. Цяжэй за ўсё паварам-кандытарам, за тры гады ніхто з іх не знайшоў работу па спецыяльнасці.

Напрыканцы 2 пытанні да бацькоў, дзецям якіх рана ці позна трэба будзе выбіраць.

- Па-першае, кім вы бачыце ў будучым сваё дзіця: чалавекам, які скончыў ПТВ і рэгулярна наведвае біржу працы, альбо салдатам тэрміновай службы, які ўкладвае трамвайныя рэйкі на мінскіх вуліцах?

- Па-другое, што вы можаце зрабіць цяпер, каб у будучым моладзь мела выбар?

*Алег ГУЛЕЦКІ.*

